# ПАГОНЯ

Чацвер
20 ліпеня 2000 г.
№ 26 (473)
Кошт 70 рублёў


## «Азоту» патрэбныя крэдыты

Савет Міністраў Беларусі дазволіў гарадзенскаму вытворчаму аб'яднанню «Азот» правесці залог на тэрмін да 29 мая 2003 года «Беларускаму банку развіцця» гатовай прадукцыі, якая знаходзіцца на складах аб'яднання, ацэначным коштам больш за 900 мільёнаў рублёў. Залог гатовай прадукцыі робіцца ў мэтах атрымання крэдыту ў памеры 140 мільёнаў рублёў на рэканструкцыю вытворчасці капралактаму.

Ягор Звоннікаў

## Мяжа не дапамагла забойцам

**15 ліпеня пракуратура Астравецкага раёна ўзбудзіла крымінальную справу па факту забойства жыхара Грузіі.**

29 красавіка ў лесе каля вёскі Лоша Астравецкага раёна быў знойдзены труп невядомага мужчыны. З-за паўзгніўшага стану цела ўстанавіць прычыну смерці падчас судмедэкспертызы было немагчыма. Роўна праз два месяцы, 29 чэрвеня, у пракуратуру Астравецкага раёна паступіла хадайніцтва Віленскай раённай пракуратуры (Літва) аб аказанні прававой дапамогі па крымінальнай справе, згодна з якой у лютым 1999 года двое жыхароў Літвы каля вёскі Шумск Віленскага раёна незаконна перавялі на тэрыторыю Беларусі жыхара Грузіі. Па дарозе падчас сваркі адзін з суправаджаючых ударыў яго два разы нажом у шыю. Забраўшы рэчы і каштоўнасці забітага, труп якога і быў знойдзены 29 красавіка, злачынцы вярнуліся ў Літву. Зараз яны арыштаваны па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса Літоўскай Рэспублікі і знаходзяцца пад вартай.

Ася Куніцкая

## Прызыўнікі адпраўляюцца

**21 ліпеня - апошні дзень адпраўкі на месца службы прызыўнікоў веснавога прызыву.**

Гэтым разам вайсковую форму апранулі каля васьмісот хлопцаў з Гродна. 60 працэнтаў з іх будуць служыць за межамі вобласці, 40 працэнтаў - у частках Гарадзенскага гарадскога гарнізону і Гарадзенскай вобласці. Гарадскі ваенны камісар Барыс Скобелеў гаворыць, што сёлета маладыя вайскоўцы прызываюцца, галоўным чынам, у спецыяльныя часткі - міліцыю, спецназ, памежныя войскі, патрульна-паставую службу, Міністэрства ўнутраных спраў і Міністэрства абароны.

Кожны год каля чвэрці ад агульнай колькасці прызыўнікоў прызнаюцца непрыгоднымі да ваеннай службы. Сёлета медкамісіі «забракавалі» 513 чалавек. Ваенныя ўрачы не прыцягваюцца да работы медкамісіяў, уся праца па даследаванню стану здароўя хлопцаў праводзіцца дактарамі з гарадскога аддзела аховы здароўя.

Шмат тых, хто адклаў на нейкі час выкананне ганаровага вайсковага абавязку, атрымаўшы адтэрміноўку. Адтэрміноўкі па стану здароўя атрымалі 183 прызыўніка, па сямейнаму стану - 38 і для працягу адукацыі - 37.

Усё яшчэ хаваюцца ад службы ў арміі 35 «ухілістаў».

Алена Сінявіч

### Надвор'е

20, 21 ліпеня - воблачна з праясненнямі, месцамі - ападкі, вецер няўстойлівы, слабы, 2-5 м/с. Тэмпература паветра 20, 21 ліпеня - уначы +9...+14, удзень +19...+24.

З моманту зьнікненьня нашага калегі Дзьмітрыя Завадскага мінула:

# 13 дзён

Мы патрабуем ад уладаў тэрміновага расьледаваньня абставінаў гэтай справы. Мы заклікаем супрацоўнікаў праваахоўчых органаў і спэцслужбаў, а таксама людзей добрай волі прыклясьці ўсе намаганьні дзеля ўратаваньня журналіста.



## Каледжы прапануюць абітурыенту сініцу ў руках

**Нягледзячы на тое, што да апошняга дня прыёму дакументаў у гарадзенскія каледжы яшчэ больш за два тыдні, на некаторыя спецыяльнасці ўжо ёсць конкурс па 2-3 чалавекі на месца.**

У Гродне - чатыры каледжы, якія да нядаўняга часу былі тэхнікумамі і вучылішчамі. Апошнім змяніла свой статус Вышэйшае вучылішча лёгкай прамысловасці, якое ў красавіку стала Прафесійна-тэхнічным каледжам. Паводле стану на 18 ліпеня, тут ужо набраўся высокі конкурс сярод будучых эканамістаў (3,5 чалавекі на месца) і на швачным аддзяленні (1,6 чалавекі на месца). Згодна са словамі старшыні прыёмнай камісіі спадара Вячаслава Хмяльніцкага, швачнае аддзяленне каледжа адкрывае перад навучэнцамі цікавыя прафесійныя і творчыя перспектывы. Кантакты з буйнымі дзяржаўнымі (напрыклад, «Элод») і прыватнымі прадпрыемствамі («Світанак», «Юбіта», «Сябры») гарантуюць хлопцам і дзяўчатам «кусок хлеба з маслам». Акрамя таго, зараз прапрацоўваецца ідэя з Віцебскім дзяржаўным універсітэтам з мэтай зрабіць магчымым працяг вучобы выпускнікоў каледжа па спецыяльнасці «інжынер-канструктар адзення».

Сёлета формы ўступных іспытаў у каледжы - тэставанне, субяседванне, пісьмовыя і вусныя экзамены, у залежнасці ад выбранага аддзялення. Акрамя названых швачнага і эканамічнага, ёсць яшчэ тэкстыльнае аддзяленне.

Вельмі папулярны сярод абітурыентаў Хіміка-тэхналагічны каледж. З сямі спецыяльнасцяў ужо склаўся конкурс на чатыры факультэты: «Эканоміка» (план прыёму - 60, пададзена заяваў - 122, з іх медалістаў - 10); «Аўтаматызацыя тэхналагічных працэсаў» (план прыёму - 30, заяваў - 60); «Электратэхніка» (план прыёму - 30, заяваў - 57); «Тэхналогія, абсталяванне і аўтаматызацыя машынабудавання» (план прыёму - 30, заяваў - 31, але з іх 28 медалістаў ці выдатнікаў); «Хімічныя тэхналогіі» (1,6 чалавекі на месца).

Гарадзенскі прафесійны электратэхнічны каледж у гэтым годзе ўпершыню ўвёў за ўступны іспыт конкурс атэстатаў. Паводле звестак з прыёмнай камісіі, прахадны бал будзе вышэйшым за «4». Ужо сёння на спецыяльнасць «аўтаслесар-кіроўца» на аснове базавай школы прахадны бал складае 4,2. На факультэт «Эксплуатацыя і рамонт аўтатранспартных сродкаў» конкурс сярод дзевяцікласнікаў ужо складае 2,6 чалавекі на месца. На спецыяльнасцях, куды прымаюць на базе сярэдняй школы, сітуацыя выглядае наступным чынам: сакратаркамі-машыністкамі з веданнем бухгалтарскага ўліку пажадалі стаць 85 дзяўчат (на 50 месцаў), з іх 8 - медалістак; кваліфікацыю кіроўцаў і слесараў рознага віду транспарту жадаюць атрымаць 34 чалавекі пры наборы 25 (2 медалісты).

У Гарадзенскім політэхнічным каледжы попытам карыстаецца факультэт «Праграмнае забеспячэнне інфармацыйных тэхналогій». Сярод выпускнікоў базавай школы тут неверагодны конкурс - 7,3 чалавекі на месца, 26 заяваў ад выдатнікаў, пры наборы 30 чалавек (паводле звестак на 10 ліпеня).

Прыём дакументаў у каледжы праводзіцца да першага жніўня для выпускнікоў базавай школы, да 7 жніўня - для выпускнікоў сярэдняй школы. Вялікі наплыў і, як вынік, павелічэнне конкурсу, чакаецца пасля заканчэння экзаменаў у ВНУ.

Аднак ужо цяпер вучылішчы і каледжы перасталі набіраць «троечнікаў» пасля школы. Апошнія некалькі год паступаюць галоўным чынам «харашысты» і «выдатнікі». Маладыя людзі, убачыўшы малаверагоднасць паступлення ў ВНУ і касмічныя кошты навучання на камерцыйнай аснове, вызначаюць свой лёс як мага раней. Дырэктар каледжа лёгкай прамысловасці каментуе сітуацыю так: «Нашыя абітурыенты выбіраюць сініцу ў руках, а не жорава ў небе». Каледжы сёння даюць магчымасць сваім выпускнікам ужо ў 17-18 год пачаць зарабляць, што немалаважна пры цяперашніх умовах. Разам з тым, выпускнікі гарадзенскіх і навагарадскага каледжаў могуць атрымаць і вышэйшую адукацыю ў ГрДУ, ГСГУ, паступіўшы на скарочаны курс (3 гады) на факультэт «Эканоміка і кіраванне прадпрыемствам». Навучанне, праўда, платнае, ГрДУ прапануе завочнае і платнае. Выпускнікі электратэхнічнага каледжа могуць атрымаць вышэйшую адукацыю ў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі бясплатна.

Алена Сінявіч

## «Брузгі» зачыняюцца

**З 20 ліпеня праз пагранічны пераход «Бераставіца - Баброўнікі», які размешчаны на беларуска-польскай мяжы і прапускае выключна грузавы транспарт, будзе часова дазволены праезд легкавых аўтамабіляў. Гэта звязана з рэканструкцыяй іншага пагранпераходу на беларуска-польскай мяжы - «Брузгі - Кузніца», які з 1 жніўня закрываецца на тры месяцы.**

Рэканструкцыю пераходу на сваёй тэрыторыі праводзіць польскі бок. Такім чынам, з 20 ліпеня і да канца гэтага месяца абодва названыя пагранпераходы будуць прапускаць усе транспартныя сродкі. Не выключана таксама, што для памяншэння нагрузкі на пераход у Бераставіцкім раёне цераз «Брузгі - Кузніцу» будзе дазволены праезд у начны час транспарту, які належыць жыхарам Гродна і Гродзенскага раёна. А пасажырскія аўтобусы, маршрутныя таксі, будуць перасекаць мяжу праз пераход у Бераставіцы.

Ася Куніцкая

## «Рэпарцёр» абвесціў галадоўку

**Калектыў гарадзенскай газеты «Рэпарцёр» абвесціў галадоўку як акцыю пратэсту. У аўторак у 14.30 аб гэтым быў праінфармаваны старшыня Гарадзенскага гарвыканкама Анатоль Пашкевіч. З гэтага дня здароўе і жыццё журналістаў знаходзіцца на сумленні кіраўніцтва гораду.**

Змаганне «Рэпарцёра» з гарадскімі ўладамі цягнецца ўжо паўгады. Журналісты ніяк не могуць пачаць выданне газеты, таму што гарвыканкам робіць шматлікія перашкоды на шляху рэгістрацыі «Рэпарцёра».

У прыватнай размове з заснавальнікам газеты Анджэем Пісальнікам, гарадзенскае чынавенства намякнула, што праблема ў прынцыпе вырашальная, трэба толькі змяніць назву апальнага выдання.

У сваю чаргу, калектыў газеты прапанаваў такі варыянт назвы газеты - «Рэпарцёр Плюс».

Відавочна, што падобныя дзеянні ўладаў ёсць ні што іншае, як звычайнае зацягванне часу. Разу[illegible] калектыў газеты вырашыў паскорыць роздумы чыноўнікаў і абвесціў галадоўку.

«Пачатак галадання мы прымяркуем да атрымання адмоўнага адказу з Гарадзенскага гарвыканкама на заяву заснавальніка Анджэя Пісальніка аб узгадненні адрасу размяшчэння газеты «Рэпарцёр Плюс», - адзначаецца ў заяве на імя Анатоля Пашкевіча.

Улады павінны даць адказ на працягу месяца. У іх з'явіўся шанец даказаць сваю прыхільнасць прынцыпам свабоды слова не толькі на словах, але і на справе.

Павал Мажэйка

## «Спадчына» ў Гудзевічах

**У Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі, што на Гарадзеншчыне, адкрылася філатэлістычная выстава «Спадчына».**

Экспанаты для яе прадставіў бронзавы прызёр першай усебеларускай філатэлістычнай выставы, якая праходзіла ў пачатку гэтага году ў Гомлі, Мікалай Быхаўцаў з Ваўкавыску. Экспазыцыю складаюць канверты, маркі, картмаксімумы Беларусі, Польшчы, Летувы. У іх адлюстроўваюцца асноўныя перыяды беларускай дзяржаўнасьці ад Рагвалода да сучаснасьці.

Ул. Інф.

# Ці адбудуцца выбары без дэмакратаў?

**13-га ліпеня на Беларусі пачалася кампанія па выбарах дэпутатаў так званай палаты прадстаўнікоў. Але касметычныя папраўкі, унесеныя ў выбарчы кодэкс, істотна не палепшылі яго антыдэмакратычную сутнасць. Каардынатар Рады «Рэгіянальная Беларусь», сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Сямён Домаш нагадаў:**

- Амаль усе ведаюць твор Якуба Коласа «Дрыгва». Сёння, разважаючы пра лёс нашай нацыі і дзяржавы, міжвольна напрошваецца параўнанне - ці не зацягвае нас усё глыбей багна пад назвай «Выбарчая кампанія-2000»?

Прапанаваны сцэнар накіраваны толькі на дасягненне легітымнасці існуючага рэжыму, прызнанне ва ўласнай краіне і цывілізаваным свеце беларускага псеўдапарламенту, які насамрэч будзе служыць апраўданнем дзеянняў улады і надання ёй законнага выгляду.

Прывабныя лозунгі ды заклікі некаторых палітычных і грамадскіх дзеячаў прыняць удзел у выбарах па сваёй сутнасці з'яўляюцца калядэмакратычнымі. Зразумела іх жаданне як мага хутчэй кінуцца ў вір передвыбарчай барацьбы. Аднак гэта не павінна быць спакусай для разважлівых і сур'ёзных людзей.

- Дэмакратычныя сілы - надзея і спадзяванне значнай часткі народа краіны. Мы не маем права трапіць у пастку сумнўнай выбарчай кампаніі, у дрыгву палітычнага авантурызму. Неаднаразова быць падманутым адным і тым жа чалавекам, адной і той жа ўладай і зноў спрабаваць гуляць з рэжымам, ставіць на кон свой лёс і будучыню Радзімы могуць толькі безадказныя палітыкі, - лічыць Сямён Домаш.

Калі ўладай не будуць выкананы шырока агучаныя апазіцыяй чатыры ўмовы, адлюстраваныя ў канчатковым дакуменце саміта ў Стамбуле і падпісаныя ў тым ліку і Аляксандрам Лукашэнкам, то афіцыйны ўдзел у выбарах дэмакратычных палітычных і грамадскіх арганізацыяў будзе для апошніх не чым іншым, як самагубствам.

Вядомы палітык лічыць, што дэмакратычныя сілы Беларусі - гэта той патэнцыял, з дапамогай якога можна перамагчы аўтарытарны праімперскі рэжым, навязаны нашай Бацькаўшчыне. Аднак гэтага можна дасягнуць толькі пры ўмове іх аб'яднання і сінхранізацыі дзеянняў.

Усё гучней заяўляюць аб сабе аб'яднаныя рэгіёны краіны на чале з Каардынацыйнай Радай «Рэгіянальная Беларусь». Вынікі маючай адбыцца выбарчай парламенцкай і прэзідэнцкай кампаніяў шмат у чым залежаць менавіта ад стаўлення да гэтых важнейшых палітычных акцыяў рэгіянальных партыйных, грамадскіх і прафсаюзных арганізацыяў. У рэгіёнах сканцэнтраваны моцны інтэлектуальны і людскі патэнцыял.

**Антон Лабовіч**

# Мікалай Статкевіч: «Седзячы ў бульбе, Беларусь не выратуеш»

**У канцы ліпеня Цэнтральны камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) збіраецца разгледзіць рэкамендацыі Кангрэса дэмакратычных сіл, што адбыўся 2 ліпеня, адносна няўдзелу апазіцыі ў парламенцкіх выбарах. І магчыма, што партыя прыме іншае рашэнне.**

Пра гэта заявіў старшыня БСДП (НГ) Мікалай Статкевіч на сустрэчы з грамадскасцю Брэста вечарам 11 ліпеня. Статкевіч падкрэсліў, што асабіста ён выступае супраць рэкамендацыі Кангрэса. «Тое, што адбылося на Кангрэсе - не аб'яднанне апазіцыі, а ўдар па яе адзінстве», - заявіў лідар партыі. Маючыя адбыцца выбары ён лічыць вельмі важнымі. «Калі не будзе каталізатара ўнутры якога б ні было парламента, умовы правядзення прэзідэнцкіх выбараў у наступным годзе будуць значна горшыя, чым парламенцкіх сёлета», - заявіў Статкевіч. Восеньскія выбары, адзначыў ён, адбудуцца незалежна ад таго, возьме ў іх удзел апазіцыя або не. Байкатаваць выбары, на думку Статкевіча, неразумна: «Седзячы ў бульбе, Беларусь не выратуеш». Што да кандыдатуры будучага прэзідэнта, то, паводле яго словаў, вырасла цэлая плеяда здольных лідараў.

**Валянціна Казловіч**

# Моладзь будзе авангардам!

**Справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадзенскай філіі БНФ «Адраджэньне» акрэсліла новы значны накірунак дзейнасці гэтай арганізацыі - актыўная праца з моладзю. Для большай эфектыўнасці гэтай працы была створана пасада намесніка старшыні па сувязях з моладдзю. Яе заняў 27-гадовы сябра Цэнтральнай Рады Маладога Фронту Сяргей Антусевіч. З гэтай нагоды ПАГОНЯ задала яму некалькі пытанняў.**

***- Сяргей, БНФ у Гародні існуе ўжо 11 год, а пасада намесніка па сувязях з моладдзю створана толькі цяпер. Няўжо Фронт дагэтуль не бачыў карысці ад маладых?***

- Гэта можна патлумачыць толькі патрабаваннем часу. У 1997 годзе быў створаны Малады Фронт. У Гародні заснавальнікамі МФ была моладзь з БНФ. З моманту стварэння Малады Фронт прайшоў ступені станаўлення, замацавання ў свядомасці людзей, сталення. Увесь час, БНФ не навязваў сваю думку Маладому Фронту. Цяпер сфармавалася моцнае ядро Гарадзенскай арганізацыі МФ з відавочнымі лідарамі і працаздольнай Радай. У той жа час жыццё паказала, што найбольш эфектыўнымі з'яўляюцца сумесныя акцыі. Тым болей, што прынцыповых разыходжанняў паміж БНФ і МФ не існуе. Мала таго, значна амаладзілася Гарадзенская арганізацыя БНФ. За апошні час у арганізацыю прыйшло шмат маладых сяброў. Такім чынам, само жыццё паказвае на болей шчыльную працу з моладдзю.

***- У чым будзе выражана гэтая праца?***

- Перадусім гэта каардынацыя дзейнасці і супольныя акцыі БНФ і Маладога Фронту. Па-другое, узаемная дапамога адзін аднаму. Па-трэцяе, кантакты з усімі блізкімі па духу моладзевымі арганізацыямі і асяродкамі, як у нашай краіне, так і за яе межамі.

***- Зразумела, што ў сваёй дзейнасці БНФ будзе абапірацца на Малады Фронт. Як ты можаш ацаніць апошнія кадравыя падзеі ў МФ, у прыватнасці «раскольны» III Сойм?***

- Так, сапраўды. Малады Фронт - гэта самая блізкая да БНФ моладзевая арганізацыя і ва ўсіх сваіх дзеяннях галоўным апірышчам «старому» Фронту павінен стаць Малады Фронт. Я ўжо не кажу пра кадравае пытанне. Тут усё і так павінна быць зразумелым - найбольш падрыхтаваныя і схільныя павінны будуць замяніць нашых старэйшых сяброў.

Што тычыцца III Сойму МФ, то ацэньваць яго вынікі цяпер проста няўдзячная справа. Тэма расколу, пра які пішуць цэнтральныя апазіцыйныя СМІ, па-мойму, простае перабольшанне. Напярэдадні Сойму МФ былі ўжытыя тыя самыя сродкі, што і перад VI Соймам БНФ. Тым не менш, я лічу вялікай памылкай адыход з арганізацыі Шыдлоўскага & К. Тое, што на Сойме была сапраўдная барацьба пазіцый і думак, праўда не заўсёды сумленная, можна ацаніць несумненна станоўча. Пазіцыя Гарадзенскай дэлегацыі была акрэсленая: «За змены ў Маладым Фронце без змены кіраўніка». Так і атрымалася. Была прынята праграма «Малады Фронт пераменаў», старшынём застаўся Павал Севярынец, які адчувае і прымае неабходнасць пераўтварэнняў у арганізацыі. Што тычыцца Гародні, то ў гэты момант Рада Гарадзенскай арганізацыі Маладога Фронту працуе над тым, каб рэалізаваць гэтую праграму ў Гародні з максімальным эфектам.


Сяргей Антусевіч

***- Аб'яднаная апазіцыя плануе правесці ўвосень шматлікія акцыі пратэсту. Як лічыш, ці будзе вырашальным удзел моладзі ў гэтых акцыях?***

- Не сакрэт, што цярпенню калі-небудзь прыходзіць канец. Людзі ўсё больш адкрыта і выразна выказваюцца супраць рэжыму, за Беларусь. Ці стануць восеньскія акцыі пераломнымі ў нашым змаганні, - пакажа час. Але тое, што менавіта ад моладзі, ад яе пазіцыі будзе залежыць поспех, гэта адназначна. Моладзь мусіць быць авангардам, нават проста таму, што нам, маладым, жыць у гэтай краіне і нам вырашаць яе будучыню.

**Павал Мажэйка**

# Прызначэнне выбараў - фарс

**Старшыня БНФ Вінцук Вячорка прызначэнне даты выбараў ацаніў «як непавагу да меркавання сусветнай супольнасці».**

«Лукашэнка ніколі б не падпісаў указ аб прызначэнні выбараў, калі б да гэтага яго не падштурхоўвала Расея», - сказаў В.Вячорка. Лідар БНФ зазначыў, што ніводнае з 4-х узгодненых патрабаванняў апазіцыі, зацверджаных на Кангрэсе дэмакратычных сіл і падтрыманых у рэзалюцыі па пытанню аб Беларусі Парламенцкай асамблеі АБСЕ, не выканана.

«Не вернуты функцыі парламенту, не прынята нармальнае заканадаўства па выбарах. Не вызвалены палітычныя зняволеныя, не адменены прысуды ў дачыненні апазіцыйных палітыкаў. Апазіцыя па-ранейшаму не допускаецца да дзяржаўнага тэлебачання і радыё, у няроўных умовах функцыянуюць дзяржаўныя і незалежныя газеты. У гэтай сітуацыі абвяшчэнне выбараў - гэта абвяшчэнне фарсу. У фарсе мы браць удзел не будзем ніякім чынам, не будзем вылучаць кандыдатаў, пасылаць назіральнікаў, падтрымліваць незалежных дэпутатаў. Не збіраемся сваімі рукамі ствараць гэты псеўдапарламент, які здасць незалежнасць Беларусі», - заявіў В.Вячорка.

Ён лічыць, што адзіна правільная тактыка для апазіцыі - прытрымлівацца рашэнняў Кангрэса дэмакратычных сіл. Старшыня БНФ не выключае, што беларускія ўлады распачнуць напярэдадні выбараў «некаторыя палітычныя трукі». Напрыклад, як выказаў здагадку В.Вячорка, бліжэй да даты выбараў палітычныя праціўнікі рэжыму могуць быць вызвалены з турмаў.

**Генадзь Барбарыч**

# Палякі папярэджваюць АБСЕ

**Шэраг польскіх палітыкаў - сяброў Камітэта «Польшча - Беларусь» - выступілі з заявай, у якой выказваюць неразуменне пазіцыі АБСЕ ў адносінах да маючых адбыцца ў Беларусі парламенцкіх выбараў.**

Камітэт «Польшча - Беларусь» быў створаны сёлета ў студзені польскімі і беларускімі палітыкамі. Яго мэта - садзейнічаць захаванню незалежнасці Беларусі і развіццю ў рэспубліцы дэмакратыі, а таксама ўмацаванню ўзаемаразумення паміж Беларуссю і Польшчай. Аўтары заявы адзначаюць, што беларускія ўлады не выканалі ніводнага з міжнародных патрабаванняў па выбарчаму заканадаўству, а таксама ўмоваў, неабходных для правядзення дэмакратычных выбараў.

Нягледзячы на гэта, гаворыцца ў заяве, кіраўнікі рабочай групы АБСЕ па Беларусі і прадстаўніцтва гэтай арганізацыі ў Менску «гатовы да актыўнай падтрымкі гэтых выбараў». У сувязі з тым, што ў маючых адбыцца парламенцкіх выбарах ужо адмовіліся браць удзел буйнейшыя апазіцыйныя партыі і вядучыя палітыкі ад апазіцыі, «гэтыя выбары будуць выключна выбарчым фарсам», лічаць польскія палітыкі. Яны выказваюць надзею на тое, што «АБСЕ пазбегне кампраметацыі» і «не будзе прыкладаць намаганні да калапізацыі Беларусі Расеяй», падтрымліваючы абвешчаную выбарчую кампанію.

Пад заявай стаіць 10 подпісаў - старшыні Камітэта «Польшча - Беларусь» Пятра Хлябовіча, а таксама прадстаўнікоў Руху адраджэння Польшчы, Асацыяцыі былых зняволеных канцлагераў і ветэранаў, клуба «Народ - Дзяржава - Незалежнасць», Незалежнага прафсаюза «Салідарнасць-80» ды шэрагу іншых грамадскіх арганізацыяў Польшчы. Тэкст заявы накіраваны кіраўнікам АБСЕ і Польшчы, а таксама ў беларускую амбасаду ў Варшаве і сродкі масавай інфармацыі.

# Мін`юст прапаноўвае замест Усебеларускага з`езду рэферэндум

**Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь распаўсюдзіла заяву ў сувязі з падрыхтоўкай Усебеларускага з'езду за незалежнасць, які плануецца правесці ў Менску 29 ліпеня.**

«Міністэрства юстыцыі, - гаворыцца ў заяве, - звяртае ўвагу грамадзянаў, палітычных партыяў, грамадскіх аб'яднанняў, працоўных калектываў на тое, што Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь гарантуе кожнаму свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выяўленне, а таксама свабоду сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацыяў, якія не парушаюць правапарадак і правы іншых грамадзян Рэспублікі Беларусь».

Мін'юст нагадвае, што «для вырашэння найважнейшых пытанняў дзяржаўнага і грамадскага жыцця могуць праводзіцца рэспубліканскія і мясцовыя рэферэндумы, парадак правядзення якіх вызначаны Канстытуцыяй і Выбарчым кодэксам».

«Апрача таго, - адзначаецца ў заяве, - 12 ліпеня 2000 года кіраўнік дзяржавы падпісаў Закон «Аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах», які рэгламентуе парадак ініцыявання, склікання, правядзення, а таксама кампетэнцыю рэспубліканскіх і мясцовых сходаў у Рэспубліцы Беларусь».

З гэтай нагоды Міністэрства юстыцыі заяўляе: «Рашэнні якіх-небудзь не ўрэгуляваных заканадаўчымі актамі «з'ездаў» не маюць ніякай юрыдычнай сілы і не маюць прававых наступстваў».

**Наталля Кулагіна**

# Фронт кліча сяброў

**Ужо амаль год, як Вінцук Вячорка быў абраны новым старшынём БНФ «Адраджэньне». Рух прайшоў перарэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь. Праходзяць запланаваныя Соймам і абласной Радай БНФ сустрэчы кіраўнікоў Партыі й Руху зь сябрамі БНФ, з жыхарамі райцэнтраў ды іншых населеных пунктаў у вобласці й па краіне.**

Тыя, хто жадае далучыцца да Руху, уступіць у Партыю БНФ, знайсьці кантакты з арганізацыямі ў сваіх раёнах і суполкамі ў сваёй мясцовасьці! Тэлефануйце на нумары тэлефонаў у Гродне: 72-11-83, 915-323. Напісаць можна на адрас: 230005, г.Гродна-5, а/с 243. Звяртацца можна кожны аўторак у Абласную управу БНФ «Адраджэньне» з 18.00 да 19.00. па адрасе: г.Гродна, вул. К.Маркса, 11.

**Мікола Баўсюк,
старшыня Гарадзенскай Рады БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ**

# Знаёмцеся: краіна BY

**Згодна з міжнародным пагадненнем, менавіта гэтыя літары наклеены на ўсіх беларускіх машынах. І звярнуў на іх увагу мой дзесяцігадовы пляменнік з Расеі. Яшчэ слаба разбіраючыся ў шматлікіх букварах, ён спытаў у мяне: «Дзядзька, гэта значыць, што ўсе машыны Бэ-У?» Я рассмяяўся - гэта вельмі добра супадала з тым, што болей за палову ўласных легкавых аўтамабіляў сапраўды былі купленыя ў Еўропе, былымі ў карыстанні.**

Але калі задумаўся над гэтым, то зразумеў, што хлопчык знайшоў нейкі сімвал нашай краіны. Бо сапраўды, усё ў нашай любімай Беларусі было ў карыстанні.

Пачнем з таго, што марксісты называюць базісам. Ці знойдзеце ў нашай краіне хоць адну буйную вытворчасць, дзе б абсталяванне абнаўлялася так, як гэтага патрабуе знос і маральнае старэнне? Аскому нагналі паведамленні пра ступень зносу станкоў «на 80 працэнтаў, на 100 працэнтаў, на 125 працэнтаў». Здаецца, рэкорд пабілі транспартнікі: іх аўтобусы і тралейбусы прайшлі ўжо два нарматыўных тэрміны і пайшлі на трэці. А «новыя» аўтобусы, якія купляюцца ў Германіі ды Чэхіі, сапраўды Б/У. Аднак у параўнанні з нашымі - гэта цацачкі. Да таго ж, дзе прадпрыемства можа знайсці сродкі на абнаўленне і рэканструкцыю? Бо на «зайчыкі» нічога купіць нельга, а ўсю валюту, якую мы зарабляем, добрасумленна забірае дзяржава. Дарэчы, і ў галіне ўласнасці наша краіна з'яўляецца Б/У - усе асноўныя прадпрыемствы належаць дзяржаве. Што гэта, як не сацыялізм Б/У?..

Праўда, вертыкаль гаркамаў і абкамаў замяніла прэзідэнцкая вертыкаль, але нічога прынцыпова не змянілася. А калі прыгледзецца, то і людзі ў гэтай вертыкалі сядзяць усё тыя ж. Ізноў Б/У.

Пра сілавыя структуры і гаворкі няма. Толькі ў нашай Богам сцеражонай краіне поўнасцю захаваны камітэт дзяржбяспекі. Нідзе на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, нават там, дзе служба гэтая захаваная і памножаная, няма злавесных літараў: КГБ. З-за сарамлівасці ды сціпласці яе перайменавалі, а дзесьці нават рэфармавалі. Аднак мы маем усё тое ж Б/У. Войска данашэе старыя запасы і ўзброенае старой зброяй. Б/У? Міліцыя, як і ў савецкія часіны, заўжды мае рацыю. Калі ж не, то заўсёды мае рацыю суд, як сцвярджалася, - «самы справядлівы суд у свеце». Б/У?

Газеты, радыё, тэлебачанне - усё гэта да болю капіруе старую савецкую прапаганду. Як гэта казалі ў савецкія часіны наконт праграмы «Время»: і гэта ўсё пра Яго і трошкі аб надвор'і. «Панараму» з «Рэзанансам» даўно глядзелі?

Нават эмблемы у нас зараз б/у. Замест «Пагоні» - перароблены герб БССР, а замест бел-чырвона-белага сцяга - савецкі ручнік.

Нават боязна мне стала, як усё гэта ў галаву прыйшло.

І сапраўды, краіна Б/У. Можа, хопіць? Калі ж надалей так пойдзе, то трэба замяніць наклейкі на машынах на Б/У. Тады ўсе будуць ведаць, прадстаўнік якой краіны едзе.

**Міхась Лермантовіч**

# «ЗАО «Православная инициатива» дапамагае Лукашэнку змагацца з іўдзейскай сусветнай змовай

**«У Беларусі зараз ёсць два шляхі выбару: альбо ў кабалу таго ж Захаду, альбо да жыда-масонаў, што акупавалі Расею. І ёсць трэці шлях -застаецца выспачкай свабоды, стаць цэнтрам збірання славянскіх народаў для адпору сілам зла... Дапамагайце свайму народам абранаму Прэзідэнту Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку». Гэтая цытата ўзята з прадмовы складальнікаў зборніка «Война по законам подлости» (Мінск, ЗАО «Православная инициатива», 1999. - 479с.). Чым жа выпрашылі дапамагчы «народам абранаму Прэзідэнту» самі складальнікі «Войны...»?**

Перш за ўсё тым, што выкрываюць сапраўдныя прычыны распаду «Савецкай Дзяржавы...без бамбёжкаў, без стрэлаў, без якоганебудзь супраціву». Карацей. Сталін быў толькі памочнікам Лазара Кагановіча. У 1917 годзе жыды захапілі ўладу. Стварылі карны апарат: ЧК-ГПУ-НКВД-КГБ. Берыя - паўжыдак. Гітлер - таксама. Амерыканскія прэзідэнты служаць жыдам. Увесь гэты кагал разагнаў у 1953 годзе маршал Жукаў, але з маршалам расправіліся прастафіля Хрушчоў і сіяніцкая мафія. Брэжнеў - паўжыдак, Андропаў - Эрэнштэйн. Такім чынам, жыды стварылі Савецкі Саюз, яны ж яго і развалілі. Але, не будзь яны жыды, зноў стварылі дзяржаву - Расею!

А што ў Расеі? Гайдар - жыд, Чубайс, Россель, Нямцоў, Лужкоў, Прымакоў, Яўлінскі - таксама. У Вільні на пачатку 1991-га група жыдоўскіх экстрэмістаў уваравалася ў морг і расстраляла трупы, каб паказаць, што савецкія войскі забівалі людзей; а адзін самы упарты жыд лёг пад гусеніцы танка і сфатаграфаваўся. Вайна ў Чачні - «справа рук габрэяў». Дарэчы, Хакамада - паўжыдоўка, а большасць іўдзеяў - нашчадкі хазараў (татараў).

Каварныя іўдзеі ды масоны - усюды, яны і «белыя», і «чырвоныя», і дэмакраты, і камуністы. Яны абманулі нават КГБ СССР, паставілі генсекам шпіёна Гарбачова. Захапілі СМІ. «Плодятся с особой силой». Папа рымскі сустракаецца з рабінамі. Абклалі, ворагі, з усіх бакоў...

Чарнобыльская аварыя - гэта спланаваная дыверсія. Тут матэрыялы зборніка павольна пераходзяць да беларускай тэматыкі. Зянон Пазьняк, хаця і не жыд, але вораг «інтэграцыі». Антырускую лінію праводзяць Мясніковіч-Пашкевіч-Латыпаў-Якубовіч. І толькі адзін Замяталін (хаця і падобны знешне на іўдзея) -непахісны «інтэгратар». Жыццё прэзідэнта вісела на валаску, злачынства рыхтавалася ў Драздах. Малады Фронт праводзіць алімпіяды снайпераў, вядома з якой мэтай...

Юдафобія, антыамерыканізм ёсць усяго толькі псіхалагічны механізм кампенсацыі пачуцця ўласнай непаўнавартасці. Як і русафобія. Іх спавядоўць тыя, хто няздольны ўпісацца ў навакольны свет з яго супярэчнасцямі, канфліктамі, разнастайнымі інтарэсамі, традыцыямі, веравызнаннямі. Цемрашальнымі «фобіямі» карыстаюцца таталітарныя спецслужбы ў барацьбе з іншадумствам, ідэямі свабоды і дэмакратыі. Яны ж інспіруюць стварэнне фашысцкіх арганізацый, «эскадронаў смерці» для расправы і вынішчэння змагароў за волю. Пытанне ў тым, чаму менавіта сёння ў Менску выйшла гэтая кніжка.

Тут нельга абыйсці ўвагай тое, што апошнім часам у беларускае грамадства актыўна ўкідваецца пастулат «БНФ - жыды». Для асабліва наіўных не здымаецца лозунг «БНФ - фашысты». Яго нават пішуць на плотах, узамен кондовых трох літараў. Як відна з прыведзеных урыўкаў «Войны...», жыд - гэта перш за ўсё вераломны віноўнік усіх бедаў грамадства, а па-другое, - асоба нікчэмная, зацюканая. Адсюль і вынікае жаданне надаць беларускім дэмакратычным рухам прыкметы сусветна згуртаванага зла і маральнай другасортнасці. Так прапагандысты таталітарнай «інтэграцыі», майстры псіхалагічнай вайны перакладаюць віну за правальную палітыку з хворай галавы на здаровую.

Што да жыдоў, то яны сабе ў Палестыне стварылі з пустэльні багатую, квітнеючую і магутную краіну. А мы, беларусы, з квітнеючай зямлі робім пустэльню, а ўласную дзяржаву даверылі невукам. Жыдоўская дзяржава пасьпяхова развівае спорт, культуру, навуку, у Ізраіль кожны год прыязджаюць мільёны турыстаў. А ў нас вынішчаецца мова, нацыянальная культура; і прыязджаюць да нас адное «браты па розуму» выдаўцоў «Войны...».

Змагацца з беларускім патрыятычным і дэмакратычным рухам «інтэгратары» даюць рады толькі з дапамогай зашмальцаванага шавінізму мінулых стагоддзяў і міфу пра «жыда-масонскую закулісу» і жыдоў-недалэнгаў. Гэтым і абумоўлена выданне такога кшталту кніжак, выхад у эфір такога кшталту перадачаў. Гэта азначае, што цемрашалы адчуваюць хісткасць сваіх пазіцыяў у цяперашняй Беларусі.

...Складальнікі «Войны...» надта хацелі дапамагчы Аляксандру Рыгоравічу. Ці патрабуе «народам абраны» гэткай дапамогі, ні ён сам, ні ягоныя міністры пакуль не паведамілі. Як падаецца, барані Бог ад такой дапамогі, але можа яму спадабалася?

**Сяргей Самасей**

**Даведка ПАГОНІ:** Масавы прыход габрэяў звязаны з XIV стагоддзем, калі ў Заходняй Еўропе (Германіі, Гішпаніі ды іншых краінах) пачаліся пераследванні габрэяў. Яны знайшлі месца ў Вялікім княстве Літоўскім. У Гродне першыя габрэйскія суполкі ўзнікаюць напрыканцы XIV стагоддзя. Напярэдадні першай сусветнай вайны габрэйскае насельніцтва складала 14 працэнтаў ад усіх жыхароў Беларусі. У гарадах і мястэчках Гарадзеншчыны яны нярэдка складалі 50-60 працэнтаў насельніцтва. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў выніку фашысцкага генацыду загінула 300 тысяч габрэяў. Зараз у вобласці налічваецца 908 габрэяў, альбо 0,1 працэнта ад насельніцтва. Большасць жыве ў Гродне. Створана абласное аб'яднанне габрэйскай культуры імя Лейба Найдуса. Паводле дадзеных апошняга перапісу колькасць габрэяў за апошнія дзесяць год паменшылася болей чым у два разы, альбо на 57,6 працэнта.

# Эпідэмія СНІДу пагражае гарадзенцам нават у турме

**За шэсць месяцаў гэтага года Гарадзенская вобласць выйшла на першае месца сярод іншых рэгіёнаў па хуткасці распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі.**

За гэты час Абласны цэнтр прафілактыкі СНІДу выявіў 69 хворых, з іх у Гродне - 4, астатнія - у Лідзе і Лідскім раёне. Адзін чалавек - носьбіт ВІЧ-інфекцыі выяўлены ў г.Гродна ў чэрвені. Галоўны эпідэміёлаг Цэнтра Яніна Шарэнда папярэджвае, што ўспышка эпідэміі ў Лідзе дасць свае вынікі і «да канца 2000 - пачатку 2001 года трэба чакаць успышку і ў Гродне».

З чатырох новых сёлетніх выпадкаў ВІЧ-інфікавання адзін дыягнаставаны ў дзіцяці, якое атрымала хваробу ад інфікаваных бацькоў і трое - у маладых людзей ва ўзросце 20-25 гадоў. Два юнакі прыйшлі абследавацца ў кабінет ананімнай дыягностыкі Цэнтра. Апошні ж, чарвеньскі выпадак быў выяўлены ў 25-гадовага зняволенага ў СІЗА. Усе трое - наркаманы.

Асобы непакой у дактароў выклікае тое, што ўсё болей з'яўляецца людзей, якія атрымліваюць інфекцыю ад хворых наркаманаў палавым шляхам.

На сённяшні дзень карта распаўсюджання СНІДу па Беларусі выглядае наступным чынам. Агульная колькасць ВІЧ-інфікаваных - 3035 чалавек. З іх у Гомельскай вобласці - 2227 чалавек, у Менску - 322, на Берасцейшчыне - 143, на Магілёўшчыне - 116, на Гарадзеншчыне - 99 чалавек. Эпіцэнтрамі хваробы з'яўляюцца наступныя гарады: Светлагорск, Жлобін, Гомель, Пінск, Ліда, Віцебск. У Гродне 14 носьбітаў ВІЧ-інфекцыі.

**Алена Сіневіч**

# Пажары - не адзіная праблема пажарных

**«Пажарны-камбайнер»... Гэтае надзвычай неймавернае спалучэнне словаў сёння смела можна ўносіць у нацыянальны каталог прафесіі. Усё часцей пажарным Гарадзенскай вобласці даводзіцца здымаць баявую вопратку і сядаць за стырно «Донаў» і «Бізонаў». Так змагары з агнём б'юцца з масавым парушэннем правілаў пажарнай бяспекі ў многіх гаспадарках Гарадзеншчыны.**

Эканамічная сітуацыя ў краіне, адсутнасць сродкаў дзяржавы для аказання дапамогі калгасам вядзе да таго, што падрыхтоўка да «бітвы за ўраджай» пачынаецца толькі ў апошнія тыдзень-два. У такіх аўральных умовах кіраўнікам гаспадарак не да правілаў супрацьпажарнай бяспекі - «не да жыру, быць бы жыву». Вось і даводзіцца пажарным уласнаручна правяраць агнетушыльнікі, падфарбоўваць плакаты і нават кіраваць камбайнам.

Паводле неафіцыйных дадзеных, сёлета на палях гарэлі ўжо 35 камбайнаў. У асноўным, гэта расейскія «Доны», якія ў адрозненне ад нямецкіх ці амерыканскіх не маюць гадавой супрацьпажарнай гарантыі. Машына згарае за 15 хвілінаў, таму можна пахваліць прафесіяналізм пажарных, бо 33 камбайны праз некаторы час ізноў вярнуліся на поле.

На прэс-канферэнцыі, прысвечанай Дню пажарнай службы, начальнік Гарадзенскага абласнога ўпраўлення МНС Анатоль Гуз адзначыў пэўнае зніжэнне колькасці пажараў у вобласці з 816 да 739. Аднак расце колькасць загінуўшых у полымі: за першыя шэсць месяцаў года ахвярамі агню сталі 54 чалавекі. Гэта самая вялікая лічба за гісторыю пажарнай службы. Яна магла быць значна большай, аднак 506 чалавек пажарныя вынеслі з агню літаральна на руках.

Асноўная прычына большасці пажараў выстройваецца ў ланцужок: ужыванне алкаголю - незагашаная цыгарэта - сон - пажар - смерць, як правіла.

Прыкмета часу: пажарным даводзіцца змагацца не толькі з пажарамі, але і з уласнымі праблемамі. Адна з іх - недастатковае забеспячэнне спецыяльнай тэхнікай.

Пытанне з набыццём 50-метровай лесвіцы, якая дазволіла б апаратыўна гасіць пажар на высотных будынках, вырашаецца на ўзроўні кіраўніцтва вобласці, але па-ранейшаму застаецца адкрытым.

А тая тэхніка, што ёсць у карыстанні, не заўсёды адпавядае сучасным стандартам: 40 працэнтаў яе належыць спісанню.

І ўсё ж пажарныя спрабуюць і самі зарабляць грошы. На сённяшні дзень пажарная служба выконвае каля 60 платных паслугаў. Так што, калі вашая котка на дрэва залезла, а злезці не можа - набірайце 01.

**Павал Мажэйка**

# Вы не паверыце, але злачынстваў стала менш!

**У першым паўгоддзі 2000 года ў Гарадзенскай вобласці знізіўся ўзровень злачыннасці. Паводле дадзеных статыстыкі, па лініі крымінальнага вышуку ў вобласці зарэгістраваны 3411 злачынстваў, або на 5,6 працэнта меней, чым за аналагічны леташні перыяд. Узровень злачыннасці ў разліку на 10 тысяч насельніцтва знізіўся з 30,5 да 29,8 злачынства. На 14 працэнтаў скарацілася колькасць цяжкіх злачынстваў, у тым ліку наўмысных забойстваў - на 15,7; крадзяжоў - на 8,9; хуліганстваў - на 6,8; цяжкіх цялесных пашкоджанняў - на 3,9; крадзяжоў аўтамабіляў і рабаванняў - на 3,6 працэнта. Не зафіксаваны рост бытавой і вулічнай злачыннасці, а таксама злачынасці, учыненай у стане алкагольнага ап'янення, сярод непаўналетніх і раней судзімых грамадзянаў.**

Разам з тым, у сямі з 19-ці раёнаў вобласці павялічылася колькасць злачынстваў па лініі крымінальнага вышуку і сярод непаўналетніх; у шасці раёнах узрасла злачыннасць на бытавой глебе, у чатырох - стала больш злачынстваў, учыненых асобамі ў стане алкагольнага ап'янення.

Раскрывальнасць злачынстваў па вобласці сёлета ў першым паўгоддзі склала 77,7 працэнта - на 2,9 працэнта больш, чым за аналагічны перыяд 1999 года.

У 2000 годзе значна актывізавалася праца праваахоўных органаў Гарадзенскай вобласці па выяўленню эканамічных злачынстваў. З пачатку года па гэтай лініі ўзбуджана крымінальных справаў на 10,6 працэнта больш, чым у першым паўгоддзі 1999 года. Колькасць выяўленых крадзяжоў і фактаў хабарніцтва ўзрасла на 8,1 працэнта. Канфіскавана і вернута ў даход дзяржавы тавараў і грашовых сродкаў на суму звыш 95,8 мільёна рублёў. Канфіскаваны 19,9 тысячы доларАў ЗША, 1340 нямецкіх марак, 11 тысяч расейскіх рублёў, а таксама 4 аўтатранспартныя сродкі, на якіх за межы краіны незаконна вывозіўся тавар.

**Ася Куніцкая**

# Што беларусу добра, то галандцу - смерць?!

**Галандская тэхналогія вырошчвання клубніцы дае цудоўныя вынікі на беларускай глебе. Усяго год таму ў Шчучынскім раёне пачалася рэалізацыя пілотнага праекту фермераў з Нідэрландаў. Аднак яго вынікі пераконваюць, што для замежных інвестыцыяў у сельскую гаспадарку не існуе ні кліматычных, ні рэсурсных перашкодаў.**

У Галандыі ёсць вёска Амерыка. У Шчучынскім раёне - Гурнофель. Можна сказаць, што гэтыя вёскі цяпер пабрацімы. У першай - размяшчаецца фірма «Vissers Aardbelplanten»,спецыялізуецца на селекцыі і вырошчванні клубніцы і мае вялікія поспехі ў гэтай сферы дзейнасці, другая вёска з'яўляецца цэнтральнай сядзібай стратнага саўгаса «Шчучынскі». У мінулым годзе з ініцыятывы галандскага боку тут было зарэгістравана сумеснае прадпрыемства «Клубника Плантс». Паводле ўстаноўчай дамовы, доля галандскага боку ў сумесным прадпрыемстве склала 65 працэнтаў, беларуская - адпаведна 35 працэнтаў. Цікавасць фермераў гэтай малой скандынаўскай краіны да Беларусі з'явілася, згодна са словамі дырэктара праекту Віла Шурманса, пасля таго, як у 1992 годзе ў Нідэрландах была арганізаваная выстава беларускіх тавараў і Беларускі гандлёвы дом. На жаль, выстава, якая была задумана дзейнічаць пастаянна, ужо даўно спыніла сваё існаванне з прычыны адсутнасці фінансавання з боку беларускіх фірмаў. Нягледзячы на гэта, яе паспелі наведаць 11 тысяч гасцей.

Была і яшчэ адна прычына цікавасці галандскіх фермераў да Беларусі: перавытворчасць у сваёй краіне прадуктаў сельскай гаспадаркі, адсутнасць вольнай зямлі. Паводле агульнаеўрапейскага закона, 1/3 галандскіх фермераў павінны былі спыніць займацца аграрнай дзейнасцю. Свае тэхналогіі ды напрацаваны досвед яны сталі пераносіць туды, дзе іх няма, затое ёсць зямля і працоўныя рукі. Так галандцы аказаліся на Беларусі.

### Саўгас у якасці партнёра сумеснага прадпрыемства

Выбар саўгаса «Шчучынскі» ў якасці партнёра тлумачыўся трыма фактарамі: яго землі размешчаныя якраз на мяжы кліматычных зонаў (марской і кантынентальнай), што з'яўляецца ідэальнай умовай для вырошчвання абранай культуры; тут дастаткова вадаёмаў для арашэння; і, нарэшце, - гаспадарка гэтая вельмі занядбаная. «Мы спецыяльна выбралі стратную гаспадарку, - гаворыць спадар Шурманс, - каб паказаць, што на беларускіх землях можна дасягаць паспехаў у сельскагаспадарчай вытворчасці, калі прыўносіць сюды новыя тэхналогіі, новае насенне, рацыянальны досвед».

Паводле рашэння райвыканкама, у распараджэнне СП «Клубника Плантс» перададзена 120 гектараў зямлі. Першапачатковы разлік на атрыманне ягады не спраўдзіўся: на першым яе зборы неабходна каля 400 чалавек, што немагчыма для саўгаса. Да таго ж, выдаткі пры яе вырошчванні такія, што нават пры таннасці нашай працоўнай сілы яна атрымоўваецца нашмат даражэйшай, чым, напрыклад, у Польшчы. Таму было вырашана арыентавацца на культываванне расады клубніцы. І вось тут вынікі аказаліся дзіўнымі: расада не толькі добра расце, але і ва ўмовах мясцовага клімату атрымоўвае загартоўку і набірае такі патэнцыял развіцця, што пасля вывезу ў болей цёплыя краіны дае ўраджай большы, чым яе аналагі, якія выраслі ў болей камфортных прыродных умовах. Нягледзячы на вялікія ўкладкасці этапу станаўлення, СП ужо ў першы год працы паказала прыбытак у 10 мільярдаў рублёў (недэнамінаваных). Як сцвярджае Віл Шурманс, прагнозны паказчык гэтага года ў 100 тысяч нямецкіх марак, будзе перакрыты як мінімум у два разы.

Асноўнай умовай поспеху з'явілася вялікая праца па аднаўленні прадуктыўнай магчымасці глебы. Як заўважылі галандскія спецыялісты, беларускія землі «моцна зношаныя». Палі церпяць ад пустазелля, у глебе павышаны ўзровень кіслотнасці, не хапае арганікі. Таму пад расадай у СП сёння толькі каля 35 гектараў, 10 гектараў даюць ягаду, а на 70 гектарах расце жыта, якое ў канцы лета трэба скасіць, а салому запахаць для аднаўлення балансу глебы. На ўчастку прыкладна ў тры гектары, вельмі чыстым, на якім няма ніводнай травінкі, высаджана насенне расліны, кветкі якой пазбаўлюць ад бактэрыяў. У мінулым годзе яна загубіла тут 35 працэнтаў ураджаю. «Можна было б, - падмячае спадар Шурманс, - прымяніць хімічны метад барацьбы. Ён значна танней і хуткі па часе. Аднак біялагічны з'яўляецца больш перспектыўным». Для паліву клубніцы за кошт сродкаў галандскага боку рэканструявалі дажджавальную ўстаноўку (на сённяшні дзень яна адзіная, якая дзейнічае ў саўгасе). А на выпадак замаразкаў існуе спецыяльная плёнка, якою на працягу некалькіх гадзінаў можна накрыць вялізнае поле. Яна дае расадзе дыхаць, аднак пры гэтым захоўвае цяпло глебы.

Пастаянных працаўнікоў у «Клубника Плантс» усяго 57, па меры неабходнасці колькасць павялічваецца да 100 чалавек. І яшчэ падыходзіць на падзаработку нямала працаўнікоў саўгаса. Спачатку людзі насцярожана ўспрынялі замежныя новаўвядзенні. Аднак цяпер, як гаворыцца, адчулі розніцу. Працаўнікі саўгаса атрымоўваюць не болей за 18-20 тысяч рублёў. Да і гэтых грошай не бачылі з сакавіка. У СП плацяць рэгулярна і ў сярэднім па 50-60 тысяч рублёў. Падчас сезону збору прадукцыі і сартыроўкі прыцягваецца нямала дадатковых працоўных рук. Гэта шанс для многіх беспрацоўных Шчучыны, Васілішак, Астрыны.

### Ангар

Пілотны праект можа стацца добрым пачаткам для вялікай праграмы інвестыцыяў у сельскую гаспадарку Беларусі. Але! З 24 чэрвеня далейшае існаванне СП «Клубника Плантс» знаходзіцца пад сумненнем. Праблема ўпіраецца ў ангар, дакладней, у нерашучасць раённай выканаўчай улады ў адносінах да яго ацэнкі. Калі адбывалася ўтварэнне СП, бакі дамовіліся аб сумах узносаў. Галандскі бок унёс 108420 даляраў, а саўгас «Шчучынскі», не маючы грошай, павінен быў у якасці сваёй долі ў статутны фонд аддаць незакончанае будаванае бульбасховішча, балансавым коштам у 58380 даляраў. Айчынныя схемы разліку цаны аб'ектаў нерухомай маёмасці не паддаюцца логіцы.

Вядома, што падобныя ангары прадаваліся на беларускіх аўкцыёнах па цане ад 5 да 7 тысяч даляраў. Тым не менш, Віл Шурмансу ўдалося дамовіцца з галандскімі інвестарамі, каб тыя згадзіліся на суму, у 10 разоў большую. Аднак як толькі сабраліся перавесці ангар на баланс СП, выявілася, што неабходны пераразлік яго вартасці. У выніку пераацэнкі балансавага кошту на першае студзеня 2000 года яго цана павялічылася спачатку да 250 тысяч даляраў, а затым, калі прымяняць інфляцыйныя каэфіцыенты, да 850 тысяч даляраў. Між тым, Шчучынскі райвыканкам атрымаў ліст ад Міндзяржмаёмасці, паводле якога дазваляецца на ўзроўні мясцовай улады ўсталяваць сваю цану на ангар. Аднак яе прадстаўнікі не адважыліся выкарыстаць гэтае права і перадалі дакументы ў Аблдзяржмаёмасць у Гродне.

Такім чынам, саўгас «Шчучынскі», які намінальна з'яўляецца сумесным заснавальнікам СП «Клубника Плантс», да сённяшняга дня не ўнёс у статутны фонд свайго ўзносу, у той час, калі галандскі бок інвеставаў у праект болей за 300 тысяч даляраў. Сітуацыя паглыбляецца тым, што з-за несфармаванага статутнага фонду СП вымушана выплочваць вялікія падаткі і прадаваць абавязковыя 30 працэнтаў валютнага заробку па курсе Нацбанка. Страты, якія ў выніку ўсяго гэтага панесла фірма, складаюць болей за 101 тысячу нямецкіх марак.

### Чаканне і надзея

Падчас чакання рашэння Аблдзяржмаёмасці па ацэнцы ангара, СП запрасіла Міністэрства замежных справаў Рэспублікі Беларусь аб пралангацыі дазволу працаваць на землях саўгаса «Шчучынскі», таму што вегетацыйны перыяд ужо ў самым разгары. Віл Шурманс разлічвае на здаровы розум тых чыноўнікаў, ад якіх залежыць рашэнне аб лёсе ангара, а па сутнасці, аб лёсе СП «Клубника Плантс». «Нам, - сцвярджае ён, - нічога ад саўгаса, акрамя гэтага ангара, не патрэбна».

Затое саўгас толькі за аказаныя паслугі па эксплуатацыі тэхнікі атрымаў ад СП у мінулым годзе 6 мільярдаў рублёў, каля 60 яго жыхароў уладкаваныя на стабільна аплочваемую працу і яшчэ столькі ж маюць магчымасць падзарабіць у ім. Паводле вынікаў года, саўгасу, як сумеснаму заснавальніку, налічана 2,3 мільярда рублёў, гэта значыць, яго частка прыбытку (праўда, гэтая сума яшчэ не пераведзеная на яго рахунак, таму што саўгас пакуль сам не выканаў сваіх абавязацельстваў па ўкладу ў статутны фонд). Выгада відавочная. Жыхары навакольных вёсак узіраюцца з надзеяй на гэты эксперымент. У іх паявілася надзея на выйсце з тупіка. Кіраўнік СП запэўнівае, што адчувае падтрымку і з боку Саўміна. Вырашэнне праблемы, з яго пункту погляду, тармазіцца на ўзроўні мясцовай улады.

Застаецца чакаць і спадзявацца. У выпадку станоўчага вырашэння праблемы пілотны праект перарасце ў вялікі інвестыцыйны праект, які абяцае беларускай сельскай гаспадарцы ад 10 да 12 мільёнаў даляраў.

**Ніна Палуцкая**

# Арыенцір - BUB 1200

**На 1 студзеня 2001 года курс даляра ЗША ў Беларусі складзе 1180-1200 беларускіх рублёў. Пра гэта, спасылаючыся на «апошнія ўрадавыя арыенціры», паведаміў намеснік дырэктара дэпартамента валютнага рэгулявання Нацыянальнага банка Беларусі Павел Цэхановіч у інтэрв'ю, апублікаваным 19 ліпеня ў газеце «Звязда».**

Такім чынам, за 2000 год афіцыйны курс даляра ЗША ў Беларусі ўзрасце ў 3,7 раза (з 320 рублёў па стану на 1 студзеня 2000 года). Цяперашнім часам у рэспубліцы дзейнічаюць адразу некалькі розных курсаў замежных валют. Гэта курс Нацыянальнага банка, рынкавы курс, курс наяўнай валюты, курсы пазабіржавога рынку і дадатковай біржавой сесіі. Аднак зараз Нацбанк «рыхтуецца перайсці да адзінага абменнага курсу», зазначыў П.Цэхановіч, і такі пераход адбудзецца сёлета да 1 кастрычніка.

Ён таксама паведаміў, што «за апошні год золатавалютныя рэсурсы Нацбанка павялічыліся на 44 працэнты».

**Сяргей Снегін**

# «Пустых» грошай Ярмошын не плануе

**Ні пра якую раскрутку і нават запуск «грашовага станка» па друкаванні беларускіх грошай размова ісці не можа. Пра гэта заявіў журналістам прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын 14 ліпеня падчас візіту ў Магілёўскую вобласць.**

Свой аднадзённы візіт на Магілёўшчыну кіраўнік урада распачаў з правядзення нарады з кіраўніцтвам і дырэктарамі сельскагаспадарчых аб'яднанняў, якое прайшло за зачыненымі дзвярыма. Абмяркоўвалася эканамічнае становішча вобласці, праблемы выплаты заробку, рацыянальнае выкарыстоўванне грашовых сродкаў, выдаткаванных на падрыхтоўку і правядзенне ўборачнай кампаніі, выкананне інвестыцыйных будаўнічых праграмаў. Уладзімір Ярмошын азнаёміўся з ходам рэканструкцыі і рэстаўрацыі будынка Магілёўскага драматычнага тэатра. Пакуль працы па рэстаўрацыі гэтага помніка архітэктуры XIX стагоддзя стрымліваюцца, у тым ліку, з-за недастатковага паступлення запланаваных сродкаў з рэспубліканскага бюджэту.

Адказваючы на пытанні журналістаў, Уладзімір Ярмошын асобна падкрэсліў, што сёння нельга разлічваць на пустыя эмісійныя грошы. Асабліва тады, калі зблізжаюцца валютныя курсы, нельга спадзявацца на індэксацыю капітальных укладанняў. Паводле словаў прэм'ер-міністра, зараз трэба ладзіць сваю працу ў межах тых сродкаў, якія маюцца ў мясцовым і рэспубліканскім бюджэтах.

**Канстанцін Увараў**

# Еўрарэгіён «Нёман»: без грошай, але са сцягам

**Чарговае паседжанне Савету еўрарэгіёну «Нёман» адбылося ў Гродне 14 ліпеня. Старшынстваваў на ім намеснік старшыні Гарадзенскага аблвыканкама Міхаіл Бяляеў. Акрамя яго, з беларускага боку на Савеце прысутнічалі: намеснік старшыні аблвыканкама Віктар Чорны, загадчык кіраўніцтва архітэктуры тэрытарыяльнага планавання Анатоль Пархута (таксама сябра Савету еўрарэгіёну), эксперт праекту Tasis Георгій Бараноў. Польская дэлегацыя прыехала ў складзе чатырох чалавек, з літоўскага боку ў працы Савету прынялі ўдзел пяць прадстаўнікоў. Усе - сябры Савету альбо кіраўнікі сваіх еўрарэгіянальных бюро.**

Нагадаем, што міждзяржаўнае ўтварэнне еўрарэгіёну «Нёман» узнікла тры гады таму, у 1997 годзе, з мэтай стварэння спрыяльных умоваў для аператыўнага вырашэння экалагічных праблемаў, развіцця турызму, трывалых эканамічных і культурных сувязяў на трансмежнай прасторы.

Дадзеная канкрэтная прастора ўключае ў сябе землі басейну ракі Нёман: Падляскае ваяводства Польшчы, Гарадзенскую вобласць Беларусі, Віленскі, Мар'ямпольскі і Алітускі ўезды Літвы, а таксама Калінінградскую вобласць (Расея). На жаль, пакуль не даводзіцца канстатаваць аднолькава актыўны ўдзел усіх чатырох краінаў у праграмах еўрарэгіёну «Нёман». Выйшлі наперад у гэтым палякі, нядрэнна атрымліваецца ў літоўцаў. Значна адстае беларускі бок, а расейскі - зусім пасіўны. Вось і гэтым разам Савету давялося карэктаваць праграму паседжання, адным з пунктаў якой было пытанне аб прыёме Чарняхоўскага раёну (Калінінградская вобласць) у склад еўрарэгіёну «Нёман». Яго прыйшлося адкласці з-за непрыезду расейскага прадстаўніка Чарняхоўскага муніцыпальнага ўтварэння.

Затое астатнія пытанні былі разгледжаныя цалкам. Спадар Бяляеў падвёў вынікі выканання мерапрыемстваў другога паўгоддзя мінулага 1999 года і прадставіў праграму дзейнасці еўрарэгіёну «Нёман» на 2000 год. У ёй змешчаныя прапановы трох бакоў. Палякі, напрыклад, будуць рыхтаваць II Сувальскі кірмаш з удзелам фальклорных калектываў Польшчы, Беларусі і Літвы. Адначасова з ім адбудзецца кулінарны фестываль. Усё гэта прызначана на сярэдзіну жніўня. Польскі бок плануе сплаў на байдарках па Аўгустоўскім канале і рацэ Нёман, маршрут: Сувалкі - Гродна - Мар'ямполь. Літоўцы ўжо трэці год працягваюць курыраваць праекты па маніторынгу якасці вады, па стварэнню турыстычных інфармацыйных цэнтраў, развіццю дробнага і сярэдняга бізнесу. Беларускі бок выступіць арганізатарам выставы «Еўрарэгіён 2000», бізнес-сустрэчаў для дзелавых колаў трох нашых краінаў-суседзяў, канферэнцый «Беларусь - літоўцы», «Беларуская частка басейну Аўгустоўскага каналу» ды некаторых іншых.

Аснова фінансавання праграмаў еўрарэгіёну «Нёман» - грошы Еўрасаюзу, што прыходзяць праз міжнародныя фонды FARE і Tasis. Пакуль болей іх выпадае на долю Польшчы і Літвы, гэта значыць краінам з больш прадказальнай палітыкай і відавочным прагрэсам у эканоміцы. Таксама немалую фінансавую дапамогу ў гэтых краінах аказваюць і мясцовыя бюджэты.

На Савеце паўстала пытанне і пра неабходнасць стварэння фонду еўрарэгіёну «Нёман». Выявілася, што ён прыняты ў Асацыяцыю еўрарэгіёнаў пад нумарам 42, і надышоў час выплочваць першы ўзнос у памеры 3000 даляраў. Пакуль не вырашана праблема з агульным бюджэтам, Савет папрасіў польскі бок унесці гэтыя грошы.

Затое цалкам узгоднена прайшло абмеркаванне таго, якой павінна быць атрыбуцыка еўрарэгіёну «Нёман». Савет зацвердзіў знак, сцяг і форму фірменнага бланку гэтай міждзяржаўнай структуры.

**Сава Травень**

# Суперімпрэза беларускага рока

**Паводле меркавання польскіх масмедыяў, музычных крытыкаў ды звычайных гледачоў, XI Фестываль музыкі Маладой Беларусі «Басовішча», які прайшоў 14-15 ліпеня ў беластоцкім Гарадку, можа стацца пераломным для беларускага рока. Рэч у тым, што вядомыя айчынныя гурты-ветэраны, кшталту «Уліса» ці «Крамы», засталіся прыцененыя фестывальнымі дэбютантамі. Увогуле ж, у конкурсным праглядзе «Басовішча-2000» удзельнічалі 11 рок-гуртоў з Беларусі і 4 з Польшчы.**

Песімісты сцвярджалі, што, маўляў, лепшыя гады фестывалю прамінулі. Але іх прагнозы не спраўдзіліся. Галоўным хібам папярэдніх імпрэзаў быў нізкі ўзровень конкурснай часткі. Сёлета падчас адборачнага туру ў Менску да ўдзелу ў імпрэзе былі закваліфікаваныя найлепшыя выканаўцы. І гэта быў стрэл у дзесятку. Прыліў свежай крыві амаладзіў і ўзмацніў прэстыж «Басовішча». Нарэшце голас найноўшага пакалення, вельмі цікавы музычна, тэкстава агрэсіўны (з выкарыстаннем ненарматыўнай лексікі) і вельмі натуральны (у адрозненне ад «зорна-пазорных ростаняў-простыняў») вырваўся на вялікую сцэну. Дэбютантаў падтрымала ўдзячная публіка. А гэта - і размаляваныя панкі з дзіўнымі рознакаляровымі фрызурамі, і «прakляпаныя» металісты ды рокеры, і анархісты са сваімі сцягамі. Карацей, усе, хто выступае супраць зашмальцаванага афіцыёзу і таталітарнага прыгнёту. Увогуле, каля лясного амфітэатру сабралося больш за чатыры тысячы чалавек.

Лаўрэатамі сёлетняга «Басовішча» сталі чатыры рок-гурты. Узнагароду арганізатараў фестывалю Беларускага Аб'яднання Студэнтаў (БАС) і войта гміны Гарадок атрымала каманда «Rima» з беластоцкага Гарадка. Беларускі Саюз у Польшчы прызначыў сваю ўзнагароду гурту «Сонца Мао» з Менску. Радыё «Рацыя» ўзнагародзіла каманду «Праект Zet»,створаную вакалістам «N.R.M.» Лявонам Вольскім. А вось Студыя «Hertz» у якасці ўзнагароды прапанавала менскім музыкам з «Postskriptum» запісаць альбом.

На думку спецыялістаў, гурт «Postskriptum» - найбольш цікавае адкрыццё «Басовішча-2000». Яны граюць вельмі прыгожы фольк-рок. Спалучэнне сучаснага музычнага гучання з традыцыйнымі народнымі песнямі ў выкананні энергічных вакалістак сапраўды захапляе.

Другі дзень фестывалю быў не менш цікавы, чым першы. Спачатку выступілі ўсе лаўрэаты, а пасля адбыўся канцэрт «зорак», у якім прынялі ўдзел менскія «Крама», «Уліс», «N.R.M.», гарадзенскія «Кальян» і «Deviation», а таксама небезвядомы польскі гурт «Acid Drinkers». Імпрэза доўжылася без перапынку і скончылася пасля трэцяй гадзіны ночы.

Па ўсім відаць: беларуская рок-музыка мае вялізны патэнцыял. Адно шкада, што на Беларусі ён не можа выявіцца цалкам. Замала канцэртаў, гастроляў, спонсараў-арганізатараў, праблемы з цэнзураванием тэкстаў песень і гэтак далей. На думку старшыні Беларускага Саюза ў Польшчы Яўгена Вапы, менавіта на «Басовішчы» фармуецца незалежная беларуская эстрада, і маладыя творцы могуць свабодна выказаць пратэст супраць той рэчаіснасці, у якой жывуць на Беларусі.

Гэта адчуў і карэспандэнт швейцарскіх газет Пауль Флюкігер, які спадзяваўся пачуць у беластоцкім Гарадку фальклор, а сустрэўся з сучасным беларускім рокам. Ён нават шчыра вітаў музыкаў бел-чырвона-белым сцягам. Аднак Пауль ніяк не мог зразумець, што на Беларусі за выкарыстанне гістарычнага сцягу ў масавых акцыях можна трапіць у пастарунак. Свае рэфлексіі пра феномен «Басовішча» ён збіраецца апублікаваць у некалькіх швейцарскіх перыёдыках.

**Людвік Сарока**

## Музычная віктарына

**З гэтага нумара газета ПАГОНЯ распачынае на сваіх старонках музычную віктарыну, якая будзе працягвацца бліжэйшыя паўгады.**

1) Назавіце мастацкі фільм, у якім гучаць песні гурта «Палац»?

2) Якую назву мае апошні альбом-сінгл гурта «НРМ»?

3) Хто напісаў верш да песні «Эўрапейскія апачы» гурта «Deviation»?

4) У якіх гуртах, акрамя «НРМ», грае Піт Паўлаў ?

5) Які гарадзенскі гурт удзельнічаў у конкурснай праграме «Басовішча-2000»?

**Тых, хто адкажа на ўсе пытаньні, чакаюць цікавыя прызы ад «Выставы аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі» - касэты з беларускай музыкай.**

**Чакаем вас кожны панядзелак і сераду з 17 да 20 гадзін па адрасе: г.Гродна, вул. К.Маркса, 11, 2-і паверх.**

**Адказы дасылайце ў рэдакцыю газэты ПАГОНЯ.**

# Небяспечнае сяброўства

Аляксандр Рыгоравіч, штосьці не шанцуе Вам на сяброў. У свой час Вы афіцыйна заяўлялі, што лепшы сябра - Слабадан Мілошавіч, а як выявілася, - ён ваенны злачынца і знаходзіцца пад пераследам міжнароднага трыбунала. Нават Расея апошнім часам пра яго існаванне не ўзгадвае, ды і сам югаслаўскі народ не вельмі яго паважае. А Вы нават у Белград зляталі, каб яго абняць, не пабаяўшыся пагрозы НАТА, і таго, што яны не гарантуюць Вам бяспекі ў момант палёту ў Югаславію.

Дзяржаўнага сакратара саюзнай дзяржавы Беларусі і Расеі Паўла Барадзіна таксама лічыце «другом» і разам засядаеце за адным сталом, гандлюючы суверэнітэтам Беларусі. А П.Барадзін аказваецца, як піша газета «Народная воля», злодзей. Абакраў свой народ у Расеі, а потым дабярэцца і да нас, можа толькі стрымае яго швейцарская правасуддзе, каторае выдала ордэр на ягоны арышт і замарозіла рахункі ў швейцарскіх банках на многія мільёны даляраў.

Былога прэзідэнта Расеі Барыса Ельцына Вы таксама лічылі «лепшым другом». А ён Вас напаследак ашукаў. Калі 25 снежня 1999 года Вы падпісвалі здрадніцкую дамову пра аб'яднанне з Расеяй, Вы звярнуліся да Ельцына з пытаннем: маўляў, гэта не апошні дакумент, каторы мы сёння з вамі падпісваем? Ельцын падтрымаў Вас, каб часам у апошні момант не передумалі паставіць вельмі патрэбны для Расеі Ваш подпіс, хаця добра ведаў, што праз пяць дзён перадасць уладу другому, і болей у гэтыя гульні гуляць з Вамі не намераны. Што гэта: добрасумленныя адносіны ці падман? Прытым яшчэ і ў швейцарскай справе мо ўспліве ягоная добрасумленнасць. Вось і «лучший друг». Ды і Расею ён разгвалтаваў канчаткова, пра што інфармаваў Ул.Пуцін, падчас выступлення на нацыянальным сходзе расейскіх параламентарыяў у пачатку ліпеня бягучага года.

Цяпер ужо «лучшим другом» лічыце Ул.Пуціна, аднак надыйдзе час, і Пуцін Вас ашукае, толькі больш ганебна, чым Ельцын. Ён усё зробіць з Вашага сяброўства на карысць не беларускаму, а расейскаму народу. Гэта гучыць з усіх ягоных выступленняў, на ўсіх узроўнях. Тады ўжо не Вы,а ён будзе гаспадаром у нашай хаце, таму што мудрая народная прымаўка сцвярджае: «Хто плаціць, той і музыку заказвае».

Адумайцеся, Аляксандр Рыгоравіч, куды цягнеце беларускі народ. Пашукайце лепш сяброў сярод свайго народа. Ці не лепей сябраваць з сапраўднымі патрыётамі Беларусі, такімі, як Зянон Пазьняк, Сямён Шарэцкі ды іншымі змагарамі за незалежнасць і дабрабыт беларускага народа? Яны ж не ворагі свайго народа, і ніколі нічога дрэннага для народа не зрабілі. А калі думаюць інакш, чым Вы, дык сумесна трэба шукаць адзіная выйсце з такога становішча, як гэта ў свой час зрабілі ў Польшчы і не памыліліся. Сёння Польшча далёка наперадзе ад нас. Што тычыцца Расеі, дык з ёй можна сябраваць і гандляваць узаемавыгадна, а не «засоўваць галаву льву ў рот». Нават сёння, калі яшчэ аб'яднанне толькі на паперы, і то ўзнікае шмат супярэчнасцяў, хоць Вы і выказваліся на апошнім паседжанні кіраўнікоў дзяржаваў СНД, што ў Вас з Ул.Пуціным няма разыходжанняў у поглядах. Аднак гэта не так. Гэта хіба Вам толькі здаецца, а з боку выглядае інакш.

Напрыклад, Вы ўвесь час лаіце НАТА, а Пуцін перад прэзідэнцкімі выбарамі афіцыйна заявіў, што і Расея, магчыма, уступіць у НАТА. Вы працягваеце прыўзносіць Слабадана Мілошавіча, а расіяне прымаюць у сябе з павагай ягонага апазіцыянера Дражкавіча. Вы -за адзіную мытнёвую прастору, а Ул.Пуцін - супраць, хаця і дамова пра аб'яднанне быццам бы існуе. Аднак, калі гэта не стала выгадным для расіянаў, адразу погляды ў Вас з Пуціным і разышліся. Вось толькі наконт трохсоттысячнай групоўкі войскаў на нашай усходняй мяжы Ул.Пуцін не супраць. Аднак нам не зразумела, супраць каго гэтая групоўка будзе дзейнічаць. Калі супраць НАТА, то вельмі малая, а вось супраць беларускага народа - дастатковая, калі яшчэ дадаць сотні тысяч нашых міліцыянтаў з сабакамі.

Адумайцеся, Аляксандр Рыгоравіч, пакуль яшчэ пастка не зачынілася, і тэрмінова шукайце сяброў сярод свайго народа, такіх, хто сапраўды жадае дабра і шчасця Радзіме.

**Зыкфрыд Кузьма, ветэран працы**

# Краіны Балцка-чарнаморскай прасторы павінны даць добры адказ на расейскія прапановы

**Беларуская Служба Польскага Радыё паведаміла аб мэце маючага адбыцца візіту Прэзідэнта Польшчы ў Расею.**

Галоўнае - прапанова Расеі пабудаваць цераз Польшчу газаправод, які, напэўна, пройдзе цераз прамаскоўскую Беларусь. Гэты праект будзе альтэрнатываю Украінскаму калідору, які ўжо існуе. У выпадку, калі Польшча не згодзіцца з гэтым, Расея пагражае пабудаваць газаправод цераз Балтыйскае мора.

Зьдзіўляе нявызначанасьць пазыцыі польскага прэзідэнта ў гэтым пытаньні. Відавочна, што Расея выкарыстоўвае агрэсыўную тактыку «падзяляй ды ўладарнічай».

Толькі ўзгодненая палітыка ўсіх краінаў Балцка-Чарнаморскае прасторы дазволіць выпрацаваць годны адказ да расейскіх пагрозьлівых прапановаў і прымусіць Расею прадаваць свае прыродныя багацьці на Захад з улікам значнай платы за транзыт цераз Цэнтральную Эўропу.

**Ул. інф.**

# Праваслаўныя і каталікі

**У аўторак у мастоўскім праваслаўным храме Усіх Тужлівых Радасьці быў прачытаны малебен за беларускі народ.**

Ініцыятыву праявілі сябры праваслаўных брацтваў імя К.Астрожскага і Трох віленскіх пакутнікаў, што ладзяць зараз пілігрымку па Гарадзеншчыне. Беларуская мова ў мастоўскім храме гучала ўпершыню. Айцец Уладзімір прызнаўся, што на беларускай мове ён чытаў першы раз, але спадзяецца, што не ў апошні.

У тых жа Мастах у суботу будзе асьвечаны каталіцкі храм. Гэта першы касьцёл у гэтым горадзе: раней вернікі хадзілі маліцца ў суседнія вёскі.

Першы камень быў закладзены яшчэ ў 1992 годзе, але толькі ў 2000 жыхары Мастоў здолелі скончыць усе будаўнічыя працы. Храм пабудаваны з сучасных матэрыялаў і разлічаны на 500 вернікаў, мае лавы на 250 прыхаджанаў.

**Юлія Дарашкевіч**

# Хрысціяне аб'ядноўваюцца

**Праблемам экуменічнай дзейнасці традыцыйных хрысціянскіх цэркваў - праваслаўнай, каталіцкай і пратэстанцкай - было прысвечана пасяджэнне другой асамблеі «Круглага стала па міжцаркоўнай дапамозе ў Беларусі». Яно прайшло 13-14 ліпеня ў Менскім міжнародным адукацыйным цэнтры паводле ініцыятывы Усходняга аддзялення Сусветнага савета цэркваў.**

Асноўным накірункам дзейнасці ў Беларусі «круглага стала» стала падрыхтоўка кадраў для ажыццяўлення сацыяльнай працы, а таксама дзейнасць па аб'яднанню намаганняў розных рэлігійных структур у ажыццяўленні дабрачынных праграм. Адной з найбольш прыярытэтных з'яўляецца праграма «Клопат пра дзяцей і праца з моладдзю». У яе межах рэалізаваны 24 сацыяльныя праекты, сярод якіх - аказанне духоўнай і медыцынскай дапамогі дзецям-інвалідам, дзецям з асаблівасцямі ў развіцці псіхікі і дзецям-сіротам.

У працы другой асамблеі «Круглага стала па міжцаркоўнай дапамозе ў Беларусі» ўзялі ўдзел іерархі Беларускай праваслаўнай і Рымска-каталіцкай цэркваў, Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў Беларусі, Саюза хрысціян веры евангельскай Беларусі, а таксама прадстаўнікі Усходняга бюро Сусветнага савета цэркваў, Евангелічнай царквы Германіі і Шведскага царкоўнага агенцтва.

**Марат Гаравы**

# Вік цікавіцца з'ездам

**Днямі старшыня Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Менску пан Ханс-Георг Вік наладзіў сустрэчу, падчас якой адбылася цікавая размова аб маючым адбыцца 29 ліпеня Усебеларускім з'ездзе за незалежнасць.**

Удзел у гутарцы прымалі прадстаўнікі ініцыятыўнай групы маючага адбыцца форуму: вядомы паэт і грамадскі дзеяч Генадзь Бураўкін, навуковец Радзім Гарэцкі, публіцыст Аляксандр Старыкевіч, а таксама вядомыя палітыкі - былы прэм'ерміністр Беларусі Міхаіл Чыгір, кіраўнік Каардынацыйнай Рады «Рэгіянальная Беларусь» Сямён Домаш, намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), вядомы палітолаг Аляксей Кароль.

Кіраўніку дыпламатычнай місіі было даведзена, што дэмакратычная беларуская грамадскасць успрымае з'езд не як палітычнае шоу, а як дэманстрацыю жадання бачыць Беларусь незалежнай дзяржавай.

Вылучэнне дэлегатаў на Усебеларускі з'езд працягваецца.

**Антон Лабовіч**

# Лукашэнку падтрымалі чэскія камуністы

**12 ліпеня 2000 году Сэнат Чэскае Рэспублікі прыняў пастанову ў справе становішча на Беларусі. У галасаваньні бралі ўдзел 66 сэнатараў. «За» прагаласавала 49, «супраць» - 4 (камуністы). «За» таксама прагаласаваў міністар замежных справаў ЧР Ян Каван (сэнатар ад сацыял-дэмакратаў).**

Ініцыявалі пастанову сэнатары Ян Румл (Вунія Свабоды, былы дысідэнт ды міністар унутраных справаў) і Міхаэл Жантоўскі (Грамадзянска-дэмакратычны Альянс, былы амбасадар Чэхіі ў ЗША).

Яны абодва з'яўляюцца сябрамі замежнага камітэту Сэнату. Раней камітэтам былі ініцыяваны слуханьні па становішчы на Беларусі з удзелам як афіцыйных прадстаўнікоў Беларусі ў Чэскае Рэспубліцы, так і няўрадавых арганізацыяў ды незалежных экспэртаў, напрыклад, фундацыі «Чалавек у нядолі», прадстаўнікоў беларускае дыяспары. Ян Румл ды Міхаэл Жантоўскі ў красавіку гэтага году наведалі Беларусь, дзе мелі сустрэчы з прадстаўнікамі ўлады й апазыцыі.

Прапануем Вам неафіцыйны пераклад гэтае пастановы.

«Сэнат:

- імкнецца да разьвіцьця ўсебаковых стасункаў зь беларускім народам ды яго дэмакратычна абранымі прадстаўнікамі;

- выказвае сваю занепакоенасьць трывалым уціскам праваў чалавека ды палітычных правоў і свабодаў на Беларусі;

- апелюе да прадстаўнікоў Беларусі аб аднаўленні дэмакратычнага функцыянаваньня органаў дзяржаўнае ўлады ды правааховы;

- заклікае ўлады Рэспублікі Беларусь да аднаўленьня перамоваў з апазыцыяй ды ўвядзеньня ў дзеяньне выбарчага заканадаўства, якое б адпавядала міжнародным нормам ды абавязацельствам Беларусі, што вынікаюць зь яе сяброўства ў АБСЭ;

- заклікае ўрад Чэскае Рэспублікі акцэнтаваць на ўсіх міжнародных форумах аднаўленьне дэмакратыі ды выкананьне правоў чалавека на Беларусі;

- апелюе праз сваіх прадстаўнікоў, што дэлегаваны ў парляманцкія асамблеі міжнародных арганізацыяў, у якіх прадстаўлена таксама й Беларусь, да ўмацаваньня свабоды слова ды забесьпячэньня свабоднага доступу да сродкаў масавай інфармацыі»

**Ул. інф.**

